

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 10(447) 8 САКАВІКА 2000 г.

## БЕЛАРУСКІЯ ЖАНЧЫНЫ



Не гартаў я фаліянтаў пажаўцелыя старонкі,
Не шукаў пра вас паданняў, пыл стагоддзяў не страсаў.
Чуў я змалку плач ваш горкі,
чуў я смех ваш срэбразвонкі,
Беларускія жанчыны – неўміручая краса!

Станам – зграбныя бярозкі, што павыбеглі край руні,
Замест воч – асколкі неба яснай чэрвеньскай пары;
Валасы – ручайкі лёну, галасы – напеў шматструнны,
А усмешкі – водбліск ясны санцавейнае зары.

Гордасць, пэўна, узялі вы ў Рагвалодавай Рагнеды,
Дум ясноту Ефрасіння, пэўна, ў спадчыну дала.
Кроў свавольных крывічанак не схіляла вас у бедах, -
Пакідалі вы святліцы, бралі ў рукі вы булат.

Нёс тэўтонскі крыжаносец на канцы мяча няславу,
На зямлю славян-суседзяў ваяўнічы рушыў швед.
Адгукаўся Яраслаўне голас цвёрды Гарыславы,
Клікаў віцязяў у бітве затаптаць варожы след.

Крывічоў зямля лясная не скаралася няволі,
Хоць не раз іх род нязломны у пабоішчах палёг.
Паланянкамі былі вы, а рабынямі – ніколі! –
Хоць у гневе неразумным адварочваў Стрыбог.

Колькі вы пакут зазналі – не зазнаў ніхто на свеце!
Кветкі-браткі – вашы слёзы прараслі па лясах;
Сек няшчадна вам абліччы ліхалеццяў снег ды вецер,
А не звяла, не змарнела ваша гордая краса!

Гнулі спіны вы ў прыгоне, жалі жыта Радзівілам,
Пелі песні немаўляткам пры лучыне ў позні час;
Гадавалі веліканаў, каб дужэў народ-асілак,
Налівалася каб сіла незгінальная ў плячах!

Вы зазналі дым і попел, спусташэнне лютых войнаў,
Хлеб з бядою-лебядою, лёс салдаткі-удавы;
Вы трывожна сустракалі век дваццаты неспакойны;
Не схілялі ў час нашэсцяў непакорнай галавы.

Вам знаёмы кроў і порах, партызанскія сцяжыны,
Помсты жар у сэрцах добрых,
дзе б каханню гнёзды віць;
Вы на смерць ішлі без страху, беларускія жанчыны,
У імя Радзімы светлай, міру, шчасця і любві!

Вы умелі быць гразою. Чырванець умелі ружай,
Рассыпаць дабра алмазы. Карчаваць карэнне зла.
Гэта ваша бессмяротнасць увасоблена ў Харужай,
З вашай мужнасцю Мазанік меч дамоклаў узняла!

Вы – пачатак прыгажосці, вы – жыцця першапрычына,
Бачу будучыню вашу я ў служэнні хараству.
Я цалую вашы рукі, беларускія жанчыны!
Я схіляю перад вамі ў знак пашаны галаву!

*На здымку: удзельніцы ўзорнага харэаграфічнага ансамбля "Калі ласка" Жлобінскага гарадскога Дома культуры Святлана Нікалаенка, Алена Дашкевіч і Святлана Хутарная. Канцэрты з удзелам гэтага дзіцячага калектыву набываюць своеасаблівую афарбоўку. Многія яго ўдзельнікі сталі студэнтамі навучальных устаноў культуры і хутка будуць займацца танцамі на прафесійнай сцэне. Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.*

## ШЭРАГІ СЯБРОЎ ТБМ НЯСПЫННА РАСТУЦЬ

На апошнім паседжанні Сакратарыята ТБМ, які адбыўся 18 лютага, у ТБМ уступіла 98 чалавек. Такога масавага ўступлення ў нашыя шэрагі не назіралася ўжо некалькі гадоў. Прычым заявы падалі грамадзяне, як з розных рэгіёнаў Беларусі, так і асобы з іншых краін.

Аднавіла сваю дзейнасць Міёрская арганізацыя ТБМ на Віцебшчыне. Яе колькасць – 15 чалавек, кіраўнік Міхаіл Ролік. У Маскве адрадзілася суполка ТБМ у колькасці 10 чалавек.

Узніклі суполкі ТБМ у розных беларускіх школах. Гэта: Мачульская школа ў Слонімскім раёне (10 чалавек, кіраўнік Галіна Пышэль), Рассветаўская школа ў Акцябрскім раёне (25 чалавек, кіраўнік Ніна Волкава), Германаўская школа на Шаркаўшчыне (4 чалавекі, кіраўнік Наталля Філіпёнак) і Нізаўская школа на Уздзеншчыне (5 чалавек, старшыня Сяргей Армонік). Была зарэгістраваная Маладзечанская раённая арганізацыя ТБМ у колькасці 10 чалавек. Яе старшыня – сп. Валянцін Герновіч.

Таксама ў ТБМ 18 лютага ўступіла 10 чалавек з Гомеля, 7 – з Менска, 1 чалавек – з Рэчыцы і 1- са Слоніма.

Такім чынам, гэта яскравы адказ тым асобам, што сумняваюцца ў неабходнасці існавання ТБМ.

***Старшыня ТБМ Алег Трусаў.***

## Збор подпісаў за Беларускі Нацыянальны Універсітэт працягваецца

### Ліда: ёсць 2,5 тысячы

Працягвае прыносіць плён акцыя распачатая ў Лідзе і Пінску па збору подпісаў за БНУ. За тры тыдні ў Лідзе сабраны 2541 подпіс, з іх 1634 подпісы сабрала Лідская педнавучальня. Тут акцыю ўзначальвае адзін з заснавальнікаў Лідскага ТБМ, яго першы старшыня Міхась Мельнік.

У Пінску сабрана 300 подпісаў.

Ідзе збор у іншых гарадах. За апошні час сабрана: у Менску - 121, Бабруйску - 21, Пухавіцкім раёне - 32, Глыбокім 13, Жыткавіцкім раёне - 86, Шаркоўшчынскім раёне - 56, Чэрыкаве - 36, Маладэчне - 11, Маладзечанскім раёне - 7, Мазыры - 39, Стаўбцоўскім раёне - 86, Берасці - 13, Гомелі - 15, Гарадзеі (Нясвіжскі раён) - 22, Жодзіне - 8, Віцебску -22.

Збор подпісаў працягваецца.

## Багушэвічаўскія ўрачыстасці ў Менску

Урачыстасці, прысвечаныя 160-м угодкам з дня нараджэння Францішка Багушэвіча , у Менску пройдуць 21 сакавіка ў кінатэатры "Змена". Пачатак а 17-й гадзіне. Запрашаюцца ўсе жадаючыя. Уваход вольны.

## Багушэвічаўскія чытанні ў Лідзе

Літаратурныя чытанні прысвечаныя 160-м угодкам з дня нараджэння Францішка Багушэвіча пройдуць у Лідзе ў малой зале Гарадскога палаца культуры 17 сакавіка. Пачатак у 16.30. Уваход вольны.

## Падпіска 2000

"Наша слова" знаходзіцца ў каталогу на 2-гі квартал на ст. 7. Яшчэ можна паспець падпісацца. Кожны, хто дашле падпісны квіток (копію) у сядзібу ТБМ на Румянцава, 13 у Менск, атрымае невялікі падарунак.

Ф. СП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар — на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 402 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча,ініцыялы)

# Беларусь – жанчына

Іх лёсы супадаюць: пакутныя, непрадказальныя, непрадбачныя, з вечным спадзяваннем на лепшае ды імкненням змагацца за тое лепшае. І хоць наяўна змагаюцца адзінкі, у схронах душы змагаюцца ўсе.

І калі звыклы чалавек мяркуе, што гісторыю краю зброяю піша ваяр, змагар, той хто пралівае кроў за сваю Бацькаўшчыну, думае правільна, і тым не менш аднaчасова памыляецца. Памыляецца таму, што не толькі ваяры, ці хаця бы дыктатары ці іншыя каранаваныя асобы чыняць гонар дзяржаве. Памыляюцца і ў тым, што славу роднай зямлі прыносяць не толькі мужчыны. Трэба заўжды памятаць, што на свеце існуюць яшчэ і жанчыны. І яны не толькі аснова роду чалавечага, але яны аснова ўсяго, што існуе на нашай зямлі.

Не просты зараз на Беларусі час. Бог адвярнуўся ад нашага краю, а баль чыніць Люцыфар. І павінны ў гэтым толькі мужчыны. Калі зазірнуць у нашую гісторыю дык гэта яны (мужчыны) набыўшы непрымірыма-шляхецкую пыху развалілі самую вялікую ў свеце дзяржаву, пачынальніцай якой была жанчына, гордая ды нескароная Рагнеда, якой сёлета спаўняецца тысяча гадоў са дня смерці. І калі вялікая княгіня Рагнеда дае нам урок свецкай мужнасці дык Ефрасіння Полацкая (Прадслава Светаслававаўна) -- духоўны пачатак нашае нацыі, а ёй у гэтым годзе, як мяркуюць даследчыкі, спаўняецца 890 гадоў.



## Рагнеда

Хто зараз не ведае гэта імя на Беларусі! Дачка полацкага князя Рагвалода, як сведчаць летапісы, жанчына незвычайнай прыгажосці. Сівая даўніна і час не данеслі да нас дакладную дату яе нараджэння, як і многія акалічнасці яе жыцця. Шмат што з яе жыццяпісу можна аднесці да легендаў, паданняў, гіпотэзаў. І тым не менш яна сімвал нашага народа.

Канец першага тысячагоддзя, гэта не просты час. Няма ніякай адзінай Кіеўскай Русі. Княства раздзірае крывава міжусобіца. Брат збройна ідзе на брата і гэта становіцца нормаю.

Ад рук печанегаў гіне вялікі князь Светаслаў і ў Кіеве княжскі пасаг прымае старэйшы сын Яраполк, у Чарнігаве – Алег, а ў Ноўгарадзе Вялікім – яго пазашлюбны сын Уладзімір. Згоды між імі не было. Неўзабаве Яраполк выкарыстоўвае выпадак і яго дружыны нападаюць на Чарнігаўшчыну. Алег гіне. Яраполк не жадае цярпець уладу зводнага брата і ідзе на Ноўгарад. Уладзімір уцякае, два гады збірае войска і затым адбівае ў брата горад. У гэты час як Яраполк, так і Уладзімір шукаюць падтрымкі ў полацкага князя Рагвалода, які кантраляваў як водныя так і сухаземныя шляхі з Кіева ў Ноўгарад.

Дасягненнем сваёй мэты варагуючыя бачылі ў шлюбе з дачкой полацкага князя. У гэтым шлюбе быў не толькі палітычны разлік. Летапіс сведчыць, што Полацкі княжыцкі дом заўсёды ганарыўся красою сваіх жанчын.

Нягледзячы на тое, што кіеўскі князь Яраполк мог узяць Рагнеду толькі другой жонкаю, паколькі быў жанаты на грачанцы, у Полацку яму адказалі згодаю. Сваты Уладзіміра мелі іншы адказ: "Не хачу разуць сына рабыні". Пасля чаго ноўгародскі князь рушыў на Полацк і ў выніку моцнага штурму захапіў яго, спаліў ды разбурыў. Полацкага князя чакала садысцкая расправа. На яго вачах Уладзімір згвалтаваў Рагнеду, забіў жонку, двух сыноў і потым толькі самога. Княжская ганарлівасць Рагнеды абражана незаконнароджаным сынам ключніцы.

Пасля гэтага яе ў народзе празвалі Гарыславай.

Уладзімір дараваў Рагнедзе жыццё ды павёз яе з сабою ў абозе ў сваім паходзе на Кіеў.

Урэшце рэшт Уладзімір перамагае і Яраполка, забівае апошняга, бярэ чарговай жонкаю яго грачанку і становіцца Кіеўскім князем. Так Рагнеда разам з іншымі жонкамі і наложніцамі свайго ўладара трапляе ў Кіеў.

Князь у гэты час жыве ў распусце, але не забывае і Рагнеду. Яна амаль штогод дорыць Уладзіміру па дзіцяці. Тым не менш жаданне помсты, па ўсяму бачна, не пакідае яе. А тут надарылася нагода. У 988 годзе Уладзімір вырашае прыняць хрысціянства і заключыць шлюб з візантыйскай царэўнай Ганнай.

З "гарэмам" трэба было растацца. Князь прапаноўвае сваім жонкам развод ды новае замужжа. На прапанову мужа гордая жанчына адказала так: "Царыцай я была, царыцай і застануся, і нічыёй рабыняй не буду". Калі князь спаў, яна ўзяла кінжал і падышла да яго ложка. Уладзімір прачнуўся і перахапіў руку Рагнеды. На пытанне, чаму яна захацела забіць яго, палачанка адказала: "За тое, што бацьку майго забіў і зямлю яго паланіў і не любіш ні мяне, ні сваіх дзяцей".

Хуткі на расправу ўладар загадаў княгіні рыхтавацца да смерці ды апрануцца ў шлюбнае. За маці ўступіўся старэйшы сын Ізяслаў. Ён становіцца на шляху раз'юшанага бацькі і ўздымае меч ды кажа: "Ты тут не адзін". Гэты учынак дзіцяці ратуе жыццё Рагнеды. Уладзімір бянтэжыцца ды збірае баярскую раду, дзе апошнія раяць яму: "Ужо не забі яе дзеля дзіцяці гэтага, але але аднаві айчыну яе і дай ёй з сынам сваім".

Гэта бадай можна лічыць пачаткам аднаўлення полацкага княства. Ізяслаў быў непаўналетнім і хоць Уладзімір вырашыў аддаць у княжанне яму горад продкаў маці яго – Полацк, напачатку непакорную жонку з сынам пасяліў у спецыяльна збудаваным для гэтай мэты горадзе – Ізяслаўлі, які зараз вядомы нам, як Заслаўе.

Тут, каб пазбегнуць прымусовага замуства, якое мог учыніць Уладзімір, аддаўшы яе за аднаго са сваіх баяр, Рагнеда прымае манаства. І тут жа пад Ізяслаўем засноўвае бадай што першы ва ўсёй Усходняй Еўропе жаночы манастыр. Прыняла пастрыг і хрысціянскае імя Анастасія. І гэта тым не менш не перашкаджае Рагнедзе весці справы ў аднаўленым Полацкім княстве. Адсюль з Ізяслаўля на полацкую зямлю стала пашырацца хрысціянства.

Праз дванаццаць гадоў, у 1000-м годзе Рагнеда памірае. Як сведчаць легенды, гордую палачанку, якая ў цяжкіх жыццёвых абставінах захавала свой гонар і годнасць ды адстаяла права вольнасці свайго краю, пахавалі на гары паўвострава Перавоз, паміж вусцем рэчкі Ушы, што ўпадае ў возера Дрысу і, вытокам рэчкі Дрысы, што выцякае з яго.

Памяць аб гэтай жанчыне доўга жыла ў народзе. Яшчэ ў XIX стагоддзі этнографы запісвалі аб ёй паданні. У гонар яе ізяслаўцы імем яе назвалі возера, што непадалёку ад манастыра ды два пратокі ракі Свіслач – Княгінька і Чарніца.

## Ефрасіння Полацкая

Гонар Айчыны ствараe не толькі мужнасць, не меншую славу краю прыносіць мудрасць. Прыкладам такой мудрасці, духоўнага пачатку Беларускай дзяржавы ёсць Ефрасіння Полацкая, князёўна, ігуменя ды выдатная асветніца зямлі нашай. Яна што " яна што небапарный орел, попаривши от Запада и до Востока, яко луна солнечная, просветивши всю землю Полоцкую".

Дачку, што нарадзілася ў сям'і князя Светаслава-Георгія, малодшага сына Усяслава Чарадзея назвалі старажытным полацкім імем Прадслава. Слынны род полацкіх князёў, колькі існавала і існуе пра іх легенд і паданняў. Чаго вартае імя нескаронай Рагнеды, якую Уладзімір гвалтам зрабіў сваёй жонкай, але не зламаў волю. Гэтае і многія іншыя казанні чула з маленства Падслава. Дый гісторыя ўсяго Полацкага княства – шлях змагання да незалежнасці ад Кіева. І без сумневу можна сцвярджаць, што гэтай дзяўчыне са слыннага роду належала княжыць, разам з мужам несці цяжкі крыж гэтае барацьбы.

У дзяцінстве Прадслава, хутчэй за ўсё, навучалася пры Сафійскім саборы, або дома, пры княскім двары. Яна зачытвалася Бібліяй і іншымі царкоўнымі кнігамі і як сведчыць яе "Жыціе" дзяўчына мела любасць да навукі і вялікія здольнасці ў ёй.

Гэта быў той час у Полацкім княстве разам з хрысціянствам існавала язычніцкае (паганская) вера, толькі Прадслава ўсё наведвала манастыр, дзе інгуменняй была яе цётка, удава Князя Рамана Усяславіча і несумненна там былі цікавыя размовы пра Бога.

Аб прыгажосці і адукаванасці Прадславы пайшла чутка "по всем градам". У Полацк да князя Светаслава – Георгія зачасцілі сваты і бацька вырашае аддаць дачку замуж. У княскім палацы пачалі рыхтавацца да вяселля. Толькі раптам маладая знікае. Прадслава збягае ў манастыр да цёткі ды выказвае жаданне пастрыгчыся ў манашкі. Угаворы родных не прынеслі жаданага выніку і яны павінны былі саступіць. Ёсць усе падставы меркаваць, што дзяўчына адважылася на такі ўчынак пасля таго, як прыняла рашэнне служыць асвеце роднай зямлі, ды надалей яна не хавалася за манастырскімі мурамі, а прымала чынны ўдзел як у свецкім так і культурным жыцці Полацкага княства. Прадслава бярэ пастрыг і змяняе мірское імя на іншае – Ефрасіння. Яна распачала перапісваць кнігі і прыбытак ад продажу іх аддавала тым, хто прасіў.

Аднойчы ёй бачыцца прывід: з'явіўся анёл, які параіў ёй пакінуць келлю ў Сафіі і заснаваць свой манастыр пры царкаўцы святога Спаса ў Сяльцы. Ноччу манашка ў суправаджэнні адной чарніцы ідзе пешшу з Полацка ў Сяльцо. З ёю няма ніякіх рэчаў акрамя кніг.

Жаданне Ефрасінні пабудаваць у гэтым месцы манастыр здзяйсняе Полацкі епіскап Ілля. Неўзабаве яна становіцца ігуменняй новапабудаванага жаночага манастыра.

Трэба адзначыць, што сапраўды Ефрасінні дапамагалі родзічы, епіскап, іншыя вышэйшых чыноў святары, дапамагала само высокае яе становішча, але варта памятаць, што пастрыжэнне дваццацігадовай княскай дачкі было з'явай незвычайнай. Яе ўчынак для многіх людзей таго часу як знатных, так і просталюдзінаў стаў яскравым доказам перавагі хрысціянскай рэлігіі над паганствам. Паразмаўляць на багаслоўскія тэмы ды пазнаёміцца з ігуменняю прыязджалі суседнія князі і светары.

Крыху пазней Ефрасіння засноўвае пры царкве Багародзіцы і мужчынскі манастыр.

Асветніцтва пашыраецца. У гэтых манастырах існуюць майстэрні па перапісванні кніг – скрыпторыі. Кнігі з іх разыходзяцца па ўсёй зямлі Полацкай і далёка за яе межамі. Па іх навучаюцца грамаце дзеці, іх чытаюць князі ды манахі

Усё яе зямное жыцце было скіравана на асветніцкую працу, хоць не ўсё ў ім было так проста. У 1128 годзе яна страчвае моцную апору ў сваіх памкненнях. Памірае яе дзядзька, набожны князь Барыс. На наступны год кіеўскі князь Мсціслаў за адмову ісці ў паход на полаўцаў высылае ўсіх яе родных з Полацка ў далёкую Візантыю. Пасля пабудовы мужчынскага манастыра яго ігуменам абіраецца манах Дзіянісі. Ён хутка набірае аўтарытэт, становіцца дарадцам князя, а пазней і епіскапам Полацкім. У асобе Дзіянісія Ефрасіння атрымлівае сур'ёзнага праціўніка і мае шматлікія сутыкненні з ім па пытаннях палітыкі і маралі.

У 1150 годзе Ефрасіння была ўжо духоўна падрыхтавана да самага вялікага са сваіх здзяйсненняў – узвядзення Спаскай Царквы ў Полацку і царквы Прасвятой Багародзіцы пры мужчынскім манастыры. Храмы былі збудаваныя не горш, чым кіеўскія і наўгародскія. Хто не ведае зараз пра крыж Ефрасінні Полацкай, які зрабіў выбітны полацкі майстар – ювелір Лазар Богша.

У той час ігуменя Ефрасіння мела непахісны аўтарытэт і яе дапускаюць да кіраўніцтва княства. Парад гэтае жанчыны чакаюць многія. Полацкі князь Рагвалод Барысавіч называе сваю дачку імем Ефрасінні. Галіцкі князь Яраслаў Асмамысл упрошвае ігуменню стаць хрышчонай маці сваёй дачкі, таксама Ефрасінні.

На схіле веку свайго, у 1173 годзе полацкая ігуменя здзейсніць сваю запаветную мару – зрабіць вандроўку ў святую зямлю да Іерусаліма.

Выпраўджалі яе з небывалымі ўшанаваннямі і ўвесь шлях да Іерусаліма нагадваў трыумфальнае шэсце. Уладары розных зямель запрашалі яе да сябе ў госці. З эскортам імператара Візантыі Мануіла дабралася знатная палачанка да Святой зямлі.

Ля труны Гасподняй яна і памерла. Напачатку яе тут жа пахавалі ў іерусалімскім манастыры святога Феадосія.

У 1187 годзе, рыхтуючыся да штурму горада, султан Саладзін за выкуп дазволіў хрысціянам з іх маёмасцю пакінуць Іерусалім. Ефрасінню перазахавалі ў Кіева-Пячорскай лаўры. У 1910 годзе парэшткі яе былі дастаўлены ў Полацк, у Спаскі манастыр, а ў 1922 годзе бальшавіцкія бязбожнікі ўскрылі яе труну.

Ефрасіння Полацкая была першая ўсходнеславянская святая. Яе канaнізавалі неўзабаве пасля смерці і нават раней чым кіеўскую княгіню Вольгу.



Жанчыны Беларусі. Колькі іх самаахвярных пакутніц было на нашай зямлі. І як тут не ўзгадаць яшчэ Гардзіславу Светаславаўну (Еўдакію), малодшую сястру Ефрасінні Полацкай, паплечніцу і прадаўжальніцу яе спраў. Ці абыйсці ўвагаю Звеніславу Барысаўну (Еўпраксію) блізкую паплечніцу святой палачанкі. У гэтым шэрагу стаяць і Бірута, дачка вялікага Гедыміна і жонка славутага Давыда Гарадзенскага, Соф'я Гальшанская чацьвертая жонка Ягайла, Анастасія Алелькаўна, Барбара Радзівіл і многіх многіх іншых, як мінулых часоў, так і сённяшняга дня.

Яны сярод нас, яны з намі, жанчыны Беларусі!

*Язэп Палубятка.*

# Жанчына ёсць жыццё

Пачалося ўсё з дзіцячых наравоў. Віталіку захацелася мець кампутар. Пасля я прыкінула, што капрыз мо і не такі ўжо дзіцячы, хутчэй падлеткавы, сучасны. Ён і мяне запаліў. А чаму б і мне не мець кампутар замiж дапатопнай друкавальнай машынкі, якую некалі падараваў-выратаваў нашую Культуру Дзіма Таруліс? А чаму бы нашай Культуры цяпер ня ўзняцца вышэй? І якраз жа прапанова прыйшла ад Ірыны Коваль – былой бібліятэкаркі (БГАКЦ) гуманітарнага ліцэя, дзе некалі вучыўся Віталік. Яна схіляла Віталіка да ўдзелу ў конкурсе для школьнікаў "Блізкая гісторыя. 1945-1965". Дакляравалі шыкоўныя ўзнагароды, у тым ліку нейкі там кампутар. Віталік і клюнуў, як дурны карасік, хоць ён аніколі ж у мяне (ужо пераканалася!) не зможа напісаць па папярэдняй замове. Мо гэта і добра з аднаго боку, што кан'юнктуршчык з яго благі, а з другога боку... Трэба ж неяк паклапаціцца аб ягонай будучыні...

Хацела я даць табе ў спадчыну, сыну, пяро, але

Заціжкае гэта аружжа...

Праблемы ў мяне пачынаюцца, як у Ларысы Геніюш, Пакутніцы Светлай... І тэму такую цяжкую дзецям прапанавалі ўзняць. А ў іх плечыкі яшчэ такія слабыя. Не, асадка не для майго сына. Ён боўтаецца між небам і зямлёй, а тут трэбала б выбраць нешта адно. Можа кампутар і даў бы нейкі штуршок для развіцця ягонай асобы?..

Ды мой Віталік усё не адставаў: "Памажы! У цябе такія таленты, што цэлыя трактаты можаш пісаць!"

-Добра ! Збірайся, паедзем у Камароўшчыну да цёці Карольці. Яна раскажа, а ты паслухаеш і напішаш.

А мяне ўжо і самую пачала захопліваць глыбокая плынь падзеяў. Думалася, што гэта невыпадковы збег абставінаў: і абвешчаны конкурс, і ліст Ірынін... Наогул, нічога выпадковага няма на свеце. Пра конкурс мы ведалі раней, і Віталік даўно ўсё чапляўся то да мяне, то да бацькі, каб дапамаглі напісаць, ды я ўсё астуджвала ягоны запал, наперад добра ведаючы, што гэтая грамадзіна не для дзіцяці. Тут і мне, матцы, цяжка... Але ніхто гэтага не зробіць, апорч мяне... Адваліць гэты цяжкі камень з сэрца Маці, бо яна і цяпер, стоячы адной нагой у магіле, кажа, як і некалі казала ня раз забойцу ейнага сына, што кленчыў перад ёй і рукі цалаваў: "Я табе дарую, але сэрца не даруе, і Бог табе не даруе". Я гэта вычытала ў кніжках, а цёця Карольця дайшла да ўсяго горкім досведам свайго жыцця. Думка матэр'яльная, і зробленае зло раней ці пазней вернецца да цябе. Хай ужо лепш вяртаецца дабро, таму практычна быць добрым. Вунь да Сакалоўскага, памагатага зла, праз шмат гадоў вярнулася зло. Сын ягоны загінуў, прыціснуты кіраўніцай трактара, калі ехала вясковая моладзь на гулянку. 21 год хлопцу ўсяго было. І Багдановіч з Калоднікаў памёр ад раку, але гніенню фізічнаму папярэднічала гніенне духовае. Тое называецца кармай, лёсам, забараняецца нават благія думкі трымаць пры сабе, бо і гэтае злачынства можа зрыкашэціць па некаму. Гэта я, навучаючы сваіх дзяцей, прыдумала для іх такую прымаўку: не рабі благога нічога і ня бойся нікога.

Юзічак Сакалоўскі загінуў на маёй, яшчэ дзявочай памяці, а пра Полюся – нябожчыка я памятаю толькі нейкія цьмяныя, таямнічныя і страшныя пераказы дарослых. Здарылася гэта ўлетку 1960 года. Стаяла на Зямлі такая пара, калі дабро яшчэ бяссільнае было прабіць сабе дарогу, але і зло ўжо не магло прасоўваць эвалюцыю. Полюсь, хлапец, якому не было яшчэ і 17, патрапіў у гэты калаўрот. Патрапіў па недасведчанасці пад лопасць агромністага кола часу, гады як дасведчаныя імкнуцца рухацца між лопасцямі таго вечнага кола, абачліва не адстаючы і не забягаючы наперад.

Калгас тады будаваў стайню, якая цяпер усё роўна згарэла. (І яе дагнала карма.) Пасляваенны час ой які галодны і халодны! Лісы, успамінае цёця Карольця, панадзіліся прыходзіць у вёску, курэй красці. Жыта пры хаце было. Мо курэй з 20 яны перадушылі з галадухі. Скрозь ахвярнае пер'е валялася ў тым жыце-сімвале жыцця. І трэбала б пастраляць лісаў, ды ўсё нейк рукі, скутыя лагцугамі паднявольнай працы, не даходзілі. А патроны былі нават у Сайкоўскага – трэцяга мужа цёці Карольці. Тады не дзіва было – мець стрэльбу.

Полюсь быў ейны першынец ад першага мужа, Іпаліта Шабуні, які загінуў на вайне. Быў яшчэ ў яе ад Шабуні сын Віця, які таксама памёр, сказалі, ад запаленьня лёгкіх, у 38 год. О, матчын цяжар! "Толькі сціснула зубы і стаю ля плота, а плакаць не магу". І другі муж, Казік Кузьміцкі, памёр ад завароту кішок, пакінуўшы ёй трох дзетак. А з Сайкоўскім у яе было два сыны. Выпівоха, сірата-ды ўсё ж нейкі мужык у хаце! Жонку сваю ён цаніў. Падгуляўшы, нахвальваў: "О, мая Каця!" І сыноў сваіх, асабліва апошняга паскрэбка Толіка, шкадаваў. "О, каб майму Толю сілкаванне ды развіццё, ён бы праз год



*Караліна Сайкоўская. Здымак 80-х гг.*

усіх у баразну кідаў!" – ходзіць да гэтага часу прымаўка па вёсцы пра нябожчыка Сайкоўскага ды ягонага сына, цяперашняга алкаголіка. А Толік і праўда, хлопец не дурны. О каб жа яму было тое "сілкаванне ды развіццё"! А то ж гнаілі ўсіх зажыва. Яркім сімвалам тае пары была дурная Галя Стэфчына. Яна хадзіла з падвойным частаколам зубоў: малочных, нявырваных, і сталых. Галёкала праз іх на ўсю Камароўшчыну. Колькі яе памятаю, усё гной выкідала з калгаснай фермы. Здэцца яна на гнаі тым і нарадзілася. Але вольная душа непадуладная паднявольнаму целу. І цела-раб баіцца свайго гаспадара – духа. На зямлі зыначаныя Боскія Законы, як бы ні вытаптвалі іх людзі, усё роўна прабіваюць сабе дарогу. Дурная калгасная прыгонная Галя закахалася ў брыгадзіра Хадасевіча, ці Хадаса, як называлі ўсе яго, камуніста, а значыць – і пана, і бога, і ўладара ўсіх целаў і душаў калгасных. Гэта ён, уладар, у страху не раз стаяў на каленях перад жачынай і як святой цалаваў рукі, молячы аб літасці для сябе. Яна не забівала нікога, і яго не забіла, хоць ён забіў ейнага сына. Яна толькі памятала ўсё-ўсё, і памяць яе была цяжкая, як перасьпелы колас жыта, што хіліўся долу і плакаў зярняткамі. Жанчына ёсць жыта, а жыта ёсць жыццё. З дурной Галі і ейнага смешнага кахання смяяліся на калгаснай стайні і мужыкі, і бабы. Даруйма ім! Яны былі неадукаваныя, хоць пэўна ж разумнейшыя за цяперашніх грамацеяў. А сама Галя ціха памерла на кучы калгаснага гною, дзе рабіла да астатняй хвілі. І дахаты яе прывезлі на падводзе з гноем. Гэта ў ейную памяць я напісала, тады яшчэ пад крыптонімам Л.Г. (Ларыса Геніюш) невялічкі абразок, змешчаны ў "Нашай Ніве" № 5 за 1995 год. Паваенная калгасная вёска-дакладная мікрамадэль дзяржавы, дзе брыгадзіра Хадаса ўсе баяліся, як Сталіна, прынамсі, змрочнага ценю ягонага, бо трагічная падзея, да якой я ўсё падбіраюся, грымнула, калі самога кіраўніка ўраду злых сілаў ужо не было ў жывых. Можа страшней за тыя чорныя варанкі быў дробязны, агідны чалавечы страх. Ён, хапун, і трымаў у змрочным сутарэнні людскія душы. А калі каторая смелая вырывалася на волю-цэлае паляванне за ёй наўздагон ляцела.

Полюсь вырваўся, і яго цкавалі, а матка ягоная не магла абараніць сына, бо сама была запрыгонена тагачасным ладам жыцця. Толькі што нарадзіўся Толік, усяго сямёра дзяцей у хаце, куча свіней у хляве ды мужзломак, а над усім – "Бандэраўцы гэтыя саветы!" Полюсь рабіў на пабудове стайні і меў нейкае дачыненне да будматэр'ялаў. Багдановіч, сабутыльнік Хадаса, скраў цвікі і злажыў пакражу на Полюся. О, гэтая бутэлька- змяя спакушальніца. Колькі душаў нявінных яна атруціла! Год таму назад павесіўся Чэсік Кузьміцкі. Адзін у хаце заставаўся пасля смерці бацькоў. І добры быў мужык. Дзяцей маіх смяшыў, усім "немагушчым" за гарэлку зямлю разорваў, бо коні калгасныя былі ў ягоных руках. Бабы камароўскія кажуць, што гэта "Хадос Чэсіка спорціў". Абодва ўжо нябожчыкі, і я кажу пра іх толькі тое, што чула ад людзей, імкнучыся не дадаваць анічога свайго. Так асуджэнне ператвараецца ў суджэнне праўды.

А што прапажа цвікоў на час, калі за каласок, за слоўца плацілі жыццём! Хадос напаў на хлопца, збіў яго ў кроў, яшчэ і пад зад даў, прагнаў з працы. Людзі ўсё бачылі, ціха перашэптваліся, але адкрыта заступіцца за Полюся ніхто не ўзняўся. Баяліся страціць нават тую нэндзу, што мелі. У той дзень Полюсь раней прыйшоў дадому. Маці ён нічога не сказаў – не меў надзеі ані на каго. Яна клікала яго паабедаць разам, а ён сказаў, што сходзіць на свіную ферму і возме ў вартаўніка Стэльмаха з Негарэлага стрэльбу ды пастраляе ўрэшце гэтых лісаў. Чуйнае матчына сэрца, на гэты раз не ўстрапянулася, само прыдушанае непасільным цяжарам клопатаў. Цёмныя высачылі слабое мейсца ў кругавой абароне Светлых і не прамарудзілі напасці. Полюсь пайшоў на ферму, якая месцілася ў лесе. Пэўна ж сказаў вартаўніку тое, што сказаў матцы сваёй і ўглыбіўся са стрэльбай у лес. Грымнуў стрэл. Западозрыўшы нешта небагавое, людзі кінуліся на гук таго стрэлу. Малады хлопец ляжаў нерухома, і толькі жывой крыніцай білася з ягонага цела кроў, пакідаючы горкую надзею жывым, тым, хто заставаўся на зямлі... ды толькі як жа мала іх, жывых душаў, і як жа трэба ашчаджаць нам адно аднаго, каб зберагчы святы агонь да канца Армагедона! Полюсь ужо паліў, і пры ім быў пачак з цыгарэтамі, дзе брунатным было напісана: "Гваздзей я нікому не даваў. Багдановіч сам іх узяў, а Хадос прычапіўся да міне зра і біў міне".

Пад вечар прыехала машына да Карольцінай хаты, якая месцілася пры ўлюбёнай дзецьмі дый дарослымі, горцы, у самай сярэдзіне вёскі, на перакрыжаванні вуліцаў, дзе стаяў крыж, нездарма. Вылез чужы чалавек і папытаўся не на не тутэйшай мове: "Где здесь Шарко живёт? У них есть молодой парень?" (Адкуль жа ведаць чужынцу, што спрадвеку на нашай зямлі жылі Шарка, Валодзька, Шурка? Гэта з прыходам акупантаў прозвішчы нашыя іхныя пісарчукі перапісалі на свой капыл.)

—Ну ест, мусіць.

—А впрочем, это не у них, наверное. Там, в лесу, молодой парень застрелился.

Была ўсчата разборка, бо судовым следствам гэта нельга назваць . Маці занесла следчаму перадсмяротную сынову цыдулку. (Пэўна ж ён яе знішчыў.) Маці прасіла людзей-сведак у суд, і, каб знайшлося хоць бы два чалавекі – Праўда бы выйшла на свет. Гэта на сёння, дзякуючы блізкаму канцу Армагедона, знайшліся тыя два чалавекі, здольныя ўратаваць Культуру, а тады іх яшчэ не было.

Хадос жа падпаіў сваіх брахуноў, і тыя ілжыва сведчылі ў судзе быццам Полюсь краў цвікі і за гарэлку прадаваў іх, хоць хлопец не піў яшчэ. Відаць па ўсім было, што Матчына малако яшчэ не высахла на ягоных вуснах. Чалавечы суд абмінуў забойцаў, але Боскі суд дастаў кожнага, і кожны заплаціў па суроваму Рахунку да астатняй рысачкі. Мы не суддзі тым людзям. А калі я і ўзялася варушыць тыя даўнейшыя справы маёй роднай па бацьку цёці ды стрыечнага брата-нябожчыка, дык раблю гэта выключна дзеля будучыні майго сына, сваіх дзяцей, нашай Культуры.

А маці пасля страты сына два месяцы ляжала ў тутэйшай больніцы. Заплюшчыць вочы: чорныя кроплі, якія ўсё большаюць, растуць, набліжаюцца. Вось яны хлапякі, хмары-усё чорнае... Козы белыя з'яўляюцца... Няшчасце-гэта наведванне Бога, і Бог сімваламі сказаў маці пра Бітву, дзе няма ні левых, ні правых, ні рускіх, ні польскіх, а ёсць толькі Цёмныя і Светлыя, і што Светлыя пераможуць. І гэта будзе канец Армагедона, як уваскрашэньне духовай сутнасці Вялікіх Настаўнікаў. Ведама ж, не фізічнае іх уваскрашэнне. І дадзена было тое Адкрыццё Жанчыне, бо Жанчына, якая дае жыццё народу, мае права распарадзіцца ягоным лёсам.

***Ганна Матусевіч, Койданава.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 6. 03. 2000 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 692
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 134 руб., 3 мес.- 402 руб.
***Кошт у розніцу:*** 30 руб.